ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 10 (2568)

12 сакавіка 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

ТРЫ ЗОРКІ З ПОМНІКА СВАБОДЫ

## «ВЫХАД ДА МОРА» РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Вянок з трох зорак, які трымае ў руках сімвалічная Латвія, азначае тры складнікі дзяржавы латышоў: Відземе, Курземе і Латгале. Помнік дасягнутай у 20-х гадах Свабодзе аберагалі нашы суседзі за працягу доўгага шляху "праз церні да зорак", а якраз гэтыя словы і сталі дэвізам ордэна Трох Зорак, зацверджаным у 1924 годзе для ўзнагароджання "за асаблівыя заслугі перад Латвіяй".

Першым беларусам, які стаў кавалерам гэтай высокай узнагароды, Часовы паверань ў справах Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадарыня Інгрыда Лэўрэнцэ назвала народнага паэта нашай дзяржавы Рыгора Барадуліна.

Уручэнне ордэна Трох Зорак, прымеркаванае да дня нараджэння перакладчыка і папулярызатара латышскай літаратуры, адбылося ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Дырэктар музея Жана Дапкюнас паважным словам прывітала высокіх гасцей, а Інгрыда Лэўрэнцэ з амаль непрыкметным латышскім акцэнтам зачытала па-беларуску суправаджальны да ўзнагароды тэкст.

Унук Андрэя Галвіньша, млынаровага майстра, латышскага перасяленца, шануе свой бацька-крывіцкі радавод: Рыгор Барадулін шчыра падзякаваў у асобе спадарыні Інгрыды Лэўрэнцэ Латвіі і латышскім сябрам за высокую ацэнку яго служэння райнісаўскаму пабрацімству. Палову жыцця аддаў Рыгор Іванавіч усталяванню латышска-беларускіх культурных стасункаў. Новых чыннасцяў і добрых дзеяў у зорнай справе зычылі Рыгору Барадуліну ўвесь дыпламатычны корпус Латвіі ў Беларусі, народны пісьменнік Васіль Быкаў і намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Ніна Мазай, а таксама Т. Процька, А. Мальдзіс, К. Шэрман, Г. Бальчэўская, М. Захарэвіч, П. Дубашынскі, Э. Зарыцкі, В. Скарабагатаў, Б. Крэпак — усіх і не пералічыць.



Купалаўскі музей як аднаму з лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы таксама падрыхтаваў свой падарунак Рыгору Барадуліну — выставу пра сугучча культур Латвіі і Беларусі, пра творчы набытак нашчадка адраджэнцаў Райніса і Купалы. Яшчэ ў 1967 годзе выйшла першая кніга Барадуліна на латышскай мове — "Siena laiks" ("Час сенакосу"), з рэцэнзіяй на якую выступіла даследчыца Мірдза Абала. "Хросная маці" Рыгора Іванавіча таксама была на святочнай вечарыне. Не забыў Рыгор Іванавіч яшчэ раз нагадаць і пра сваю родную матулю Акуліну. Гэта ад маці пераняў сын народную песню "Перапёлачка", якую так прачула праспяваў у Купалавым доме Рыгор — народны паэт Беларусі, а зараз і кавалер зорнага ордэна Латвійскай дзяржавы.

Сяргей ПАПАР.

НОВАЕ ПАДРАЗДЗЯЛЕННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## САКРЭТНЫ ДЭПАРТАМЕНТ

*У складзе Нацыянальнага банка існуе структура, якая не так даўно выдзелілася ў Дэпартамент па працы з каштоўнасцямі.*

*Аб тым, чым займаецца, бадай, самае закрытае падраздзяленне НБРБ, размова з яго дырэктарам Уладзімірам СЯНЬКО.*

**— Уладзімір Яраслававіч, што ўваходзіць у паняцце "каштоўнасці" і як ажыццяўляецца работа з імі?**

— Гэта грашовыя знакі (банкноты, манеты, СКВ, мяккія валюты), а таксама юбілейныя і памятныя манеты, каштоўныя металы. Наш дэпартамент праводзіць палітыку Нацыянальнага банка ў галіне арганізацыі і рэгулявання наяўна-грашовага абароту, накіраванага на забеспячэнне ўнутранай і знешняй устойлівасці афіцыйнай грашовай адзінкі, а таксама садзейнічання падтрыманню стабільнасці цэн. На падставе даных па манетнай статыстыцы ажыццяўляецца кароткатэрміновае прагназіраванне попыту на грашовую наяўнасць і вызначаецца неабходная колькасць яе ў абарачэнні. Гэтак жа вырашаем пытанні, звязаныя з вытворчасцю банкнот і манет.

**— Аднак гэта вельмі шырокае кола пытанняў, для вырашэння якіх патрабуецца немалы штат...**

— Так, сапраўды, у дэпартаменце, акрамя эканамістаў, прафесіяналаў сваёй справы, маецца і вялікі інжынерны састаў. Гэтага, у прыватнасці, патрабуе служба інкасацыі, якая з'яўляецца адной з структур нашага дэпартамента. Акрамя таго, у склад дэпартамента ўваходзіць упраўленне эмісійна-касавых аперацый разам з аддзелам, які займаецца распрацоўкай новых тэхналогій па апрацоўцы грашовай наяўнасці, а таксама пытаннямі прымянення новых сродкаў і аўтаматызаваных машын па апрацоўцы грашовых знакаў. У функцыі дэпартамента ўваходзіць вызначэнне патрэб рэспублікі ў такой тэхніцы, намі распрацавана канцэпцыя развіцця і замены ўсяго тэхналагічнага ланцужка ў сістэме Нацыянальнага банка.

Ва ўсім свеце добра вядомыя найбуйнейшыя вытворцы машын для лічэння і апрацоўкі грашовай наяўнасці, фірмы "Дэ ла ру", "GD", "Ташыба", "Сі-Эс-Ай" і некаторыя іншыя, якія з'яўляюцца асноўнымі пастаўшчыкамі тэхнікі для аперацый такога тыпу. Размова ідзе аб магутных камбайнах настольнага і падлогавага тыпу, такіх, як "ISS 300 PS", якія, у прыватнасці, могуць распазнаць фальшывыя купюры і нават, атрымаўшы пэўныя праграмы, самастойна іх знішчаць у on Line цыкле. Да машын такога тыпу прад'яўляюцца жорсткія ўмовы ўстаноўкі, мантажу, адаптацыі. Гэтыя камбайны працуюць не толькі з беларускай валютай, па нашаму заказу

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — ГЭТА ГОДНАСЦЬ, СУМЛЕННЕ І ГОНАР

**ІНТЭРВ'Ю ЖУРНАЛІСТА АЛЕНЫ МАЛОЧКА З ВЯДОМЫМ БЕЛАРУСКІМ ДРАМАТУРГАМ АЛЯКСЕЕМ ДУДАРАВЫМ**

*— Аляксей Ануфрыевіч, хачу зверыць адчуванні: маятнік хіснуўся, і ў грамадстве зноў нарастае цікавасць да творчай інтэлігенцыі, да інтэлектуалаў. А як здаецца вам?*

— Бадай, што так. Заканчваецца век "простага" чалавека. Так званага "простага"... Век, які пачаўся з Кастрычніцкай

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НАША БАГАЦЦЕ



## НАЛІБОЦКІЯ ЗУБРЫ

Адзін герой кінафільма савецкіх часоў з такім захапленнем і дакладнасцю расказваў аб розных краінах свету, якія ён нібыта наведаў, традыцыях карэннага насельніцтва, расліннасці і жывёле гэтых рэгіёнаў, што яго субяседнік усхвалявана выгукнуў: "І ва ўсіх гэтых краінах вы бывалі!" На гэта наш герой з усмешкай адказаў: "Так, я рэгулярна гляджу тэлепраграмы "Вакол свету" і "У свеце жывёл".

Вось з такім тэлевізійным багажом ведаў мы накіраваліся ў Валожынскі ляўгас на сустрэчу з налібоцкімі зубрамі. У гэты ж дзень ад канторы лягсаса наш шлях пралёг у пушчу. Расказ га-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ*

### ЯК РЭФАРМАВАЦЬ САДРУЖНАСЦЬ



**Рашэнні па рэфармаванню Садружнасці Незалежных Дзяржаў павінны рыхтавацца публічна і з удзелам усіх краін СНД. Толькі тады Садружнасць будзе трывалай і даўгавечнай. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 3 сакавіка ў Нацыянальнай акадэміі навук рэспублікі на міжнароднай канферэнцыі "Шэсць гадоў Садружнасці: праблемы і перспектывы". У форуме прымалі ўдзел прадстаўнікі усіх дзяржаў, якія ўваходзяць у СНД, дзелавых колаў, 8 міжнародных арганізацый, уключаючы ААН, Еўрапарламент і МВФ, а таксама вучоныя і дыпламаты, акрэдытаваныя ў Мінску.**

У сваім выступленні Прэзідэнт спыніўся на некаторых прынцыповых момантах рэфармавання Садружнасці. "Адсутнасць адзінай волі" кіраўнікоў дзяржаў ён назваў галоўнай перашкодай на шляху ператварэння СНД у эфектыўнае міждзяржаўнае аб'яднанне. Прычына гэтага, на яго думку, — несупадзенне інтарэсаў розных нацыянальных эліт, ілюзіі адносна магчымасці хуткай і выгаднай інтэграцыі ў рэгіянальныя (па-за СНД) аб'яднанні, надзея на тое, што "Захад нам дапаможа" і, нарэшце, розны эканамічны ўзровень развіцця рэспублік былога СССР.

Аляксандр Лукашэнка лічыць, што калі дзяржавы СНД хочуць "быць у ліку развітых краін", то неабходна "арганізаваць агульны ўнутраны рынак тавараў і абараніць яго ад разбуральнага ўздзеяння звонку".

Не менш важнай задачай Садружнасці Аляксандр Лукашэнка назваў неабходнасць аднаўлення агульнай навуковай і культурнай прасторы.

НА ЗДЫМКУ: А. ЛУКАШЭНКА выступае на канферэнцыі.

*КАНЕЦ СЕНСАЦЫІ*

### «ЛІТОЎСКІ» ЗАМАХ НА БЕЛАРУСКАГА ПРЭЗІДЭНТА

**Пракуратура Літвы афіцыйна аб'явіла аб спыненні справы ў адносінах да афіцэраў Добраахвотнай службы аховы краю, якія быццам бы рыхтавалі замах на Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку ў час яго знаходжання ў верасні мінулага года ў Вільнюсе.**

**Справа спынена з-за адсутнасці саставу злачынства. Абвінавачаным удалося даказаць, што яны не рыхтавалі замах, а толькі пажартавалі накont гэтага.**

**Як адзначаюць аглядальнікі, жарт атрымаўся вельмі дарагі. Скандал набыў міжнародны характар — Літва зняслаўлена.**

*ЦУДЫ*

### АБРАЗ ВЫПРАМЕНЬВАЕ ЦЯПЛО

**У брэсцкім Свята-Нікольскім саборы сталася незвычайнае: зацепліўся абраз Міколы Цудатворца, які знаходзіўся ў алтары.**

**Выпраменьваць цяпло абраз пачаў два тыдні таму, аднак да апошніх дзён гэты факт не абнародаваўся. Пасля абвяшчэння прыхаджан аб цудзе ў царкве быў адслужаны малебен у гонар Міколы Цудатворца.**

**Цяпер у храме — стоўпатварэнне: людзі ідуць, каб дакрануцца да абраза, які выпраменьвае цяпло. Яго далейшы лёс і месцазнаходжанне будзе вырашаць мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, якому паведамілі аб незвычайнай з'яве ў брэсцкай царкве.**

*ПРАТЭСТ*

### БЕЛАРУСКАЯ АПАЗІЦЫЯ Ў ЛІТВЕ

**21—22 лютага ў Вільнюсе знаходзіліся прадстаўнікі апазіцыйных сіл Беларусі на чале з лідэрам фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" Станіславам Багданкевічам. У час знаходжання ў Літве беларускія апазіцыянеры былі прыняты ў сейме кіраўніцтвам фракцый кіруючай партыі кансерватараў, хрысціянскіх дэмакратаў, Саюза цэнтра і Дэмакратычнай партыі працы Літвы.**

**У сувязі з гэтым пасол Беларусі ў Вільнюсе Яўген Вайтовіч ад імя беларускага кіраўніцтва заявіў Міністэрству замежных спраў Літвы пратэст.**

**На сустрэчы з намеснікам міністра замежных спраў Літвы Бярнотасам Рогасам Я. Вайтовіч падкрэсліў, што "беларускі бок разглядае гэта як факт, які не садзейнічае развіццю дружалюбных адносін паміж дзвюма краінамі-суседзямі".**

**Паслу Беларусі было сказана, што "сейм Літвы мае права выбіраць, з якімі дэлегацыямі супрацоўнічаць і рыхтаваць сустрэчы".**

*МАЯ МІЛІЦЫЯ*




**4 сакавіка дзяржава адзначала Дзень беларускай міліцыі. Святкавалі і работнікі Віцебскага раённага аддзела ўнутраных спраў. Па выніках работы за мінулы год гэты аддзел прызнаны адным з лепшых у вобласці. На яго тэрыторыі, раздзеленай на 16 участкаў, не толькі вёсачкі, пасёлкі і фермы, але і шматлікія дачныя пабудовы, катэджы, базы адпачынку, дзіцячыя лагеры, за лік іх у вясенне-летні перыяд насельніцтва раёна павялічваецца ў 3—4 разы.**

**Галоўным у ацэнцы работы аддзела з'яўляецца практычны вынік. Калі ў 1994 годзе, скажам, было ўчынена 1 187 злачынстваў, а раскрыта 470, то ў 1977-м адпаведна 848 і 547.**

**НА ЗДЫМКАХ: аператыўны дзяжурны Уладзімір ШЛЫКАЎ і памочнік дзяжурнага Аляксандр ДАНІЛОВІЧ за работай; заняткі па крыміналістыцы.**

*АПЫТАННІ*

### ШТО ХВАЛЮЕ БЕЛАРУСА?

**Нізкі ўзровень матэрыяльнай забяспечанасці, і ў прыватнасці заработнай платы, — найбольш вострая праблема для жыхароў Беларусі. Аб гэтым сведчаць вынікі сацыялагічнага апытання, праведзенага супрацоўнікамі Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук.**

**Паводле слоў дырэктара інстытута Яўгена Бабосава, матэрыяльныя праблемы, якія найбольш хвалююць насельніцтва, знаходзяцца на першым месцы, пачынаючы з 1992 года. У вельмі моцнай ступені імі занепакоены 79 працэнтаў рэспандэнтаў. І толькі крыху больш за тры працэнты апытаных не адчуваюць ніякіх матэрыяльных цяжкасцей. Гэты паказчык практычна супадае з колькасцю "новых беларусаў".**

**На другім месцы ў 74 працэнтаў апытаных знаходзіцца рост злачыннасці. Па зразумелых прычынах сярод іх намнога больш багатых, чым бедных. А сваю трывогу, звязаную з наступствамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, большасць рэспандэнтаў — таксама 74 працэнты — паставілі на трэцяе месца. Тры працэнты апытаных адзначаюць, што гэта праблема іх не хвалюе наогул.**

*ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ*

### КУПЛЯЕМ БОЛЬШ, ЧЫМ ПРАДАЁМ

**Знешнегандлёвы абарот Беларусі ў 1997 годзе склаў 15,8 мільярда долараў ЗША і павялічыўся ў параўнанні з 1996 годам на 25,4 працэнта. Аднак яго структура не на нашу карысць, таму што аб'ём імпарту перавышае долю экспарту на 1 497,2 мільёна долараў, што складае 11,3 працэнта ад УВП. Больш таго, адмоўнае сальда знешняга гандлю павялічылася ў мінулым годзе на 209,4 мільёна долараў.**

**Што датычыцца супрацоўніцтва з краінамі Еўрапейскага саюза, гандаль з гэтымі дзяржавамі ў цэлым скараціўся, і адбываецца гэта па прычыне неспрыяльнага палітычнага клімату. Тым не менш, узаемаадносіны з асобнымі еўрапейскімі краінамі развіваюцца нармальна. Экспарт беларускіх тавараў у Германію, напрыклад, узрос на 10 працэнтаў, у Італію — на 12 працэнтаў, у Нідэрланды — на 30 працэнтаў. Нават у ЗША ў 1997 годзе было пастаўлена беларускай прадукцыі больш амаль у паўтара раза. Еўрапейскія краіны ў асноўным купляюць беларускі тэкстыль, хімічныя валокны, трактары, станкі, абсталяванне.**

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*



**Наваселле справілі работнікі Віцебскага гарадскога радыёвузла. У новым будынку агульнай плошчай больш дзвюх тысяч квадратных метраў размясціліся абанементны аддзел і лінейная служба, дыстанцыйны ўчастак з абсталяваннем для якаснага трохпраграмнага радыёвяшчання.**

**НА ЗДЫМКУ: новы будынак гарадскога радыёвузла ў Віцебску.**

*ВАДА*

### ПІНСК — НА РЭЖЫМЕ

**Жорсткія меры, накіраваныя на эканомію пітной вады, увялі ўлады Пінска. Грамадзянам горада забаронена з 6 да 21 гадзіны палівацьцяпліцы і агароды з гарадскога водаправода і водазаборных калонак.**

**Акрамя таго, прыпынена падключэнне да водаправода некаторых офісаў фірм, якія будуюцца, вытворчых баз і прадпрыемстваў. Вадой яны будуць забяспечаны толькі пры ўмове долевага ўдзелу гэтых арганізацый у фінансаванні мерапрыемстваў па развіцці магутнасцей водазабораў. Прыняцце такіх неардынарных рашэнняў выклікана значным дэфіцытам пітной вады ў Пінску: штосутачна гораду не хапае 15—16 тысяч кубічных метраў. У сувязі з гэтым вада паступае ў сеткі з вялікімі перабоямі.**

*СТАНОВІШЧА КАТАСТРАФІЧНАЕ*

### КРЭДЫТ НА ЖЫЛЛЁ

**Больш за 10 700 маладых сем'яў атрымалі льготныя крэдыты на будаўніцтва жылля ў мінулым годзе.**

**Пра гэта паведаміў старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Аляксандр Пазняк.**

**Як вядома, выплата гэтых крэдытаў, якія складаюць да 90 працэнтаў ад кошту кватэры тыпавых спажывецкіх якасцей, разлічана на 40 гадоў пад 5 працэнтаў гадавых. Акрамя гэтага, дзве з палавінай тысячы маладых сем'яў атрымалі льготныя крэдыты на набыццё хатняй маёмасці, якія даваліся на тры гады пад 10 працэнтаў гадавых.**

**Між тым тэрмін дзеяння Указа Прэзідэнта "Аб мерах па паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі", якім і прадугледжваліся гэтыя льготы, закончыўся 1 студзеня гэтага года. Хаця ў тых, хто не паспеў атрымаць даныя крэдыты, усё ж ёсць слабы шанс вырашыць сваё "кватэрнае пытанне". Справа ў тым, што ў рэспубліцы нямала прыхільнікаў падаўжэння тэрміну дзеяння вышэйпамянёнага ўказа. Як лічыць Аляксандр Пазняк, крэдыты неабходна выдаваць хаця б да 2000 года: становішча з жыллём у беларускай моладзі па-ранейшаму нельга назваць інакш, як катастрафічным.**

# САКРЭТНЫ ДЭПАРТАМЕНТ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

вырабляюць камбайны, якія могуць лічыць да пяці відаў банкнот — беларускія, расійскія, дойчмаркі, долары ЗША і фунты стэрлінгаў. Дарэчы, мы ахвотна кансультуем тыя камерцыйныя банкі, якія вырашаюць набыць для сябе такога тыпу тэхніку.

**— Парады, якія дае ваш дэпартамент, на самай справе з'яўляюцца толькі рэкамендацыямі ці яны абавязковыя для выканання камерцыйнымі структурамі?**

— Мы нікому не навязваем сваіх парад, але па шэрагу пытанняў камерцыйныя банкі сапраўды павінны выконваць патрабаванні Нацыянальнага банка, адзіныя для ўсіх, гэта вынікае з Закона аб Нацыянальным банку і Закона аб банках і банкаўскай дзейнасці. Напрыклад, у пытаннях фарміравання банкнот, іх транспарціроўкі і здачы існуе адзіны падыход з мэтай забеспячэння захаванасці каштоўнасцей, а таксама бяспекі людзей, якія выконваюць гэтыя аперацыі, бо апошнім часам сумы, якімі аперыруюць банкі, намнога выраслі, значна павялічылася сама грашовая маса.

**— Вы ўжо ўпамянулі аб машынах, якія самастойна "адлоўліваюць" і нават знішчаюць фальшывыя купюры. Ці можна разглядаць выяўленне фальшывых грошай як яшчэ адну функцыю вашага дэпартамента!**

— Па закону Нацыянальны банк мае манапольнае права на распрацоўку патрабаванняў да плацежаздольнасці і прыкмет плацежаздольнасці нашай валюты. У нашым эмісійна-касавым упраўленні ёсць цэлы экспертны аддзел, супрацоўнікі якога прымаюць удзел у распрацоўцы гэтых патрабаванняў. Адначасова мы маем прамую сувязь больш чым з трыццаццю банкамі-эмітэнтамі свету, якія пастаўляюць нам апісанні і самі ўзоры выпускаемых імі грашовых сродкаў. Мы інфармуем усе камерцыйныя банкі аб магчымых варыянтах і тыпах падробкі валют. Акрамя таго, у нас наладжаны добрыя адносіны з Упраўленнем унутраных спраў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і з прадстаўніцтвам Інтэрпола ў Беларусі. Дзякуючы ім у нашым распараджэнні маюцца ўсе магчымыя варыянты падробных банкнот і прыкметы падробленых грошай. У нас ёсць магутная база даных, якую мы пастаянна папаўняем праз Інтэрпол. У нашым распараджэнні маюцца магутныя тэхнічныя сродкі, якія дазваляюць ужо на ўзроўні сасставу паперы вызначыць сапраўднасць банкноты. Паралельна са службамі МУС і Інстытутам крыміналістыкі і крыміналогіі мы праводзім работу, якая дазваляе выявіць падробкі любога ўзроўню.

**— Нядаўна дэлегацыя Нацыянальнага банка рэспублікі Беларусь пабывала ў Базелі, дзе праходзіла еўрапейская канферэнцыя вытворцаў манет, а таксама банкаў-эмітэнтаў. Што дала гэтая паездка беларускім банкірам!**

— На гэтай канферэнцыі наш Нацыянальны банк стаў адным з афіцыйных прадстаўнікоў еўрапейскай канвенцыі па манетах, і з гэтага часу мы маем магчымасць пастаянна ўдзельнічаць у такіх сустрэчах. Спадзяемся, што ў бліжэйшы час зможам арганізаваць на канферэнцыі такога тыпу нашы стэнды, на якіх прадэманструем беларускія манеты. Для нас вельмі важна сама магчымасць вывучэння рынку юбілейных і памятных манет, бо гэты напрамак традыцыйна лічыцца вельмі прэстыжным, яму ўдзяляюць вялікую ўвагу цэнтральныя банкі практычна ўсіх дзяржаў. Размова пры гэтым ідзе не аб нейкіх звышдаходах, а ў першую чаргу аб прэстыжы дзяржавы, бо праз гэтыя манеты свет даведаецца аб нашай краіне, яе гісторыі, флоры і фауне.

**— Пасля некаторага перапынку ў Беларусі зноў пачаты выпуск юбілейных і памятных манет. Як будзе развівацца гэтая праграма цяпер?**

— У адпаведнасці з рашэннем Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь прынята праграма асноўных падыходаў да выпуску памятных манет. Цяпер распрацаваны дакументы, што рэгламентуюць даную дзейнасць. Штогод зацвярджаючы план выпуску манет, Нацыянальны банк узаемадзейнічае з зацікаўленымі ведамствамі і арганізацыямі — Міністэрствам культуры, Міністэрствам фінансаў, Акадэміяй навук і іншымі, яны прысылаюць нам інфармацыю аб тым, якія юбілеі вядомых асоб ці гістарычныя падзеі адзначаюцца ў гэтым годзе, і значыць, каго ці што мэтазгодна ўвекавечыць на памятных манетах. Мы ўважліва разглядаем усе пажаданні, прымаем рашэнне, зацвярджаем эскізы і на конкурснай аснове знаходзім выканаўцу праекта.

**— Якія манеты былі выпушчаны апошнім часам!**

— Першая манета Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь выпушчана ў гонар святкавання пяцідзесяцігоддзя ААН. Мы прынялі прапанову англійскага каралеўскага манетнага двара ўдзельнічаць у кіруемай ім манетнай праграме "ААН-50". Гэтыя манеты выканаваны з золата, серабра і медна-нікілевага сплаву і ўжо паспяхова прадаюцца ў рэспубліцы і за рубяжом. У 1996 годзе пачаты выпуск серыі "Алімпійская Беларусь", ужо адчаканены манеты, прысвечаныя мастацкай гімнастыцы, спартыўнай гімнастыцы, біятлону і хакею, іншымі словамі, тым відам спорту, у якіх нашы спартсмены паказваюць найлепшыя вынікі. Па рашэнню супольніцтва Беларусі і Расіі 2 красавіка 1997 года сумесна з Цэнтральным банкам Расіі выпушчана манета, прысвечаная стварэнню Саюза.

Нязменным поспехам у нумізматаў карыстаюцца манеты, прысвечаныя прыродаахоўнай тэматыцы, навакольнаму асяроддзю, архітэктуры, гісторыі дзяржавы. Усё гэта мы абавязкова будзем улічваць у сваёй далейшай рабоце.

**— Ці паступаюць ужо выпушчаныя манеты ў продаж і ці цяжка іх набыць?**

— Цяпер мы завяршаем распрацоўку нарматыўнай базы па гэтаму пытанню. Аднак мы пакуль не бачым асаблівага жадання працаваць з манетамі з боку Белвнешэканомбанка і Міністэрства сувязі, якія цалкам маглі б узяць на сябе іх рэалізацыю для насельніцтва. Мяркуецца, што праз Галоўнае ўпраўленне Нацыянальнага банка манеты для рэалізацыі будуць паступаць, у прыватнасці, у камерцыйныя банкі Беларусі.

**— Як вырашаецца ў Беларусі ўтылізацыя грошай, што адслужылі свой тэрмін!**

— Гэта вельмі складаная і сур'ёзная праблема, якая, як дамоклаў меч, вісіць над усімі банкамі-эмітэнтамі, бо банкноты, што толькі нараджаюцца, ужо заведама асуджаны на гібель. Тэрмін жыцця ў банкнот розны: дробныя купюры зношваюцца хутчэй, чым вышэйшы намінал — тым даўжэй служаць грошы. Але ў любым выпадку ўсе яны трапляюць назад у наш Нацыянальны банк, у якім і адбываецца іх апрацоўка, пералік, кантроль, а потым і ўтылізацыя пры дапамозе спецыяльнай устаноўкі, якая здрабняе іх у пылападобную масу ці дробную стружку.

**— Які тэрмін жыцця беларускіх банкнот?**

— Ад дзесяці да адзінаццаці месяцаў "працуюць" сто-, двухсот-, пяцісотрублёвыя і тысячныя купюры; пяці- і дваццацітысячныя купюры знаходзяцца ў абарачэнні год-паўтара; стотысячная купюра "трымаецца" каля двух гадоў. На тэрмін службы грошай аказвае ўплыў тое, як хутка яны абарачаюцца, з якой хуткасцю трапляюць ад насельніцтва ў банкі. Як ні дзіўна, многае залежыць не толькі ад якасці паперы, але і ад менталітэта людзей: за мяжой людзі захоўваюць грошы ў партаманетах, бумажніках, у нас у горадзе людзі ставяцца да грошай яшчэ больш-менш беражліва, а на вёсцы нярод, як правіла, кладзе іх камяком у кішэню, што выклікае лішнія зломы і пацёртасці.

**— Якія паслугі аказвае ваш дэпартамент камерцыйным банкам?**

— Паколькі камерцыйныя банкі працуюць на нарматыўнай базе, створанай Нацыянальным банкам, кола пытанняў, па якіх яны звяртаюцца да нас, вельмі шырокае. У асноўным яны тычацца грашовага абарачэння, прымянення штрафных санкцый, эмісійна-касавых аперацый, арганізацыі наяўнаграшовага абарачэння, работы з кліентурай, інкасацыі. Камерцыйныя банкі прымаюць таксама ўдзел у распрацоўцы нарматыўных дакументаў, акрамя таго, мы аказваем ім інкасатарскія і кансультацыйныя паслугі. Сёння многія буйныя банкі маюць ліцэнзіі на права інкасацыі грашовай наяўнасці, і мы кантралюем гэтую дзейнасць. Калі ёсць парушэнні, нам прымяняюцца санкцыі аж да ліквідацыі ліцэнзіі. Тыя ж, хто ліцэнзіі не мае, карыстаюцца дагаворнымі паслугамі альбо Нацыянальнага банка, альбо таго камерцыйнага банка, з якім яны заключаць дагавор на абслугоўванне і выкананне гэтых відаў работ.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

# НАЛІБОЦКІЯ ЗУБРЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

лоўнага паляўнічазнаўца Васіля Шакуна аб звычках гэтых жывёл у нейкай ступені згладзіў выбоіны прасёлачных дарог, па якіх імчаўся наш стары "УАЗ"ік. Амаль у самым цэнтры Налібоцкага заказніка, дзе звярнулі з гравійкі на вузкую лясную сцежку, што прывяла нас у тупік, і адбылося знаёмства з гэтымі гігантамі.

У пачатку 1994 года, расказвае Васіль Уладзіміравіч, згодна з дзяржпраграмай рэакліматызацыі гэтага віду жывёл, у лясы Валожынскага лясгаса было завезена 15 зуброў — 10 самак, 5 самцоў. Спачатку статак утрымлівалі ў вальеры, затым быў выпушчаны на волю.

У летні перыяд, калі корму хапае, зубры ў пастаянным руху па пушчы, зімой трымаюцца, як правіла, каля кармушак, гэта значыць ля самага вальера, дзе размешчаны стагі сена і сховішча з зернеадходамі. Па натуры зубр не пужлівы, але апасенне быць паднятым на рогі не дазваляе чалавеку прыблізіцца на невялікую адлегласць. Звер жа ўпарта ідзе на кантакт. Словам, заключыў В. Шакун, гэта жывёліна непрадказальная. Нават егеры, якія сочаць штодзённа за падкормкай зуброў, не дазваляюць сабе і мінуты расслабіцца сярод іх. Выпадак, калі адна з самак па мянушцы Машка зайшла ў хлеў, дзе захоўваецца сена, каб паесці, як гаворыцца, у запас, запомніцца егерам надоўга. Цяпер, успамінаючы аб гэтым, яны ўсміхаюцца, тады ж пачуцці іншага характару перапаўнялі гэтых людзей. Нязваную госцю хацелі выправадзіць па-добраму, аднак выйшла ўсё наадварот: карміяльшчыкі знайшлі для сябе бяспечнае месца на даху хлява. Толькі вокрыкі ды глухія ўдары жалезнай палкі аб драўляныя сцены прымусілі Машку пакінуць хлеў.

І пры нашай сустрэчы самка ўпарта наступала на нас, не выказваючы агрэсіі. "Каварная цікаўнасць", — пажартаваў я і пачаў адыходзіць да аўтамабіля.

Летась прыплод у статку лясных гігантаў склаў 5 галоў. Усяго ж колькасць зуброў з 1994 па 1997 год павялічылася амаль удвая. Неяк паспрабавалі ваўкі паляваць на перасяленцаў, але, атрымаўшы належны адпор, пакінулі гэтую пустую задуму. Аднак перад чалавекам з ружжом зубры безабаронныя. Браканьерская вока не пашкадавала і іх. Некалькі гадоў назад адзін зубр быў забіты. Нягоднік знік, пакінуўшы трафей некранутым. Па даным выпадку была ўзбуджана крымінальная справа. І хоць вінаватага не знайшлі, усё ж рэзананс па справе зубра ў нейкай ступені астудзіў пыл аматараў незаконнага палявання: за забойства зубра пагражае штраф вялізны.

Сяргей САБАДАШ.

**ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА**

Еўрапейскі зубр "Bison bonasus" — з найбольш старажытных жывёл сучаснай фауны. Даныя аб ім вядомыя яшчэ з III стагоддзя да нашай эры. У Англіі зубр знік у XIII стагоддзі. У Венгрыі і Усходняй Прусіі адпаведна — у 1729 і 1755 гадах. Зубры шукалі прыстанішча ў месцах маладаступных ці зусім недаступных чалавеку. Такім прыстанішчам для іх стала Белавежская пушча.

У пачатку XV стагоддзя літоўскі князь Вітольд аб'явіў пушчу дзяржаўным лесам. За самавольнае забойства зубра вінаваты лічыўся крымінальным злачынцам. У 1805 годзе Белавежская пушча ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. Тады ж быў выдадзены спецыяльны дэкрэт аб ахове зубра. У канцы стагоддзя іх было 727 галоў.

У красавіку 1919 года быў забіты апошні белавежскі зубр. З гэтага моманту від захаваўся толькі ў заасадах Заходняй Еўропы. У 1926 годзе ва ўсім свеце налічвалася 52 зубры.



Спецыяльныя работы міжнароднага таварыства аховы зубра па захаванню і развядзенню знікаючай папуляцыі ў хуткім часе сталі прыносіць станоўчы эфект. Перад другой сусветнай вайной у Белавежскай пушчы налічвалася ўжо 19 зуброў, а пасля стварэння зубрагадавальнікаў у пушчы на тэрыторыі Польшчы і Прыокскім запаведніку (Расія) іх колькасць стала расці. У 1981 годзе ў Беларусі было ўжо 158 зуброў, а ў 1991 — 300. Сёння гэтыя жывёліны знаходзяцца ў Прыпяцкім і Бярэзінскім запаведніках.



**НА ЗДЫМКАХ:** зубры ў Налібоцкай пушчы; егер Леанард ЮРЭВІЧ і галоўны паляўнічазнавец Валожынскага лясгаса Васіль ШАКУН.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ЗАМЕСТ ТОСТА НА ЮБІЛЕІ



# PALDIES І ДЗЯКУЙ

У панядзелак, 23 лютага, беларускі каляндар не забыў і такую знамянальную дату, як 75-годдзе Мірдзы Абалы — латышскага літаратуразнаўцы, перакладчыка твораў Якуба Коласа і Уладзіміра Караткевіча, аўтара артыкулаў пра беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і даследаванняў аб прысутнасці ў Латвіі мастацкага слова Янкі Купалы. Да сціплых каляндарных радкоў можна дадаць, што нашая даўняя і шчырая сяброўка з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Латвіі, мае навуковае званне доктара. Спакойнае жыццё пенсіянеркі памяняла на актыўную грамадскую працу (Мірдза Эдуардаўна — сябра Рады Латвійскага таварыства беларускай культуры "Світанак"). І кожную сваю раніцу пачынае з неверагодна цяжкай працы — стварэння шматтысячнага беларускалатышскага і латышска-беларускага слоўніка, які сёння на стадыі завяршэння.

А свой юбілей апантаная беларускасцю латышка адзначыла на зямлі сяброў. Раніцай 23 лютага, калі толькі пачынаўся яе 75-ты дзень нараджэння, яна прыбыла ў Мінск. І адразу — з карабля на баль. На вуліцы Яніса Райніса яе чакалі настаўнікі 98-й школы, дзе ствараецца экспазіцыя, прысвечаная Я. Райнісу. Былі вершы і песні па-латышску, кава і кветкі... З першымі букетамі нястомная юбілярка прыйшла на галоўную вечарыну ў яе адрас. Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі наладзіла сардэчны прыём у гонар прадстаўніцы Латвіі. Пра багаты навуковы набытак, перакладчыцкую працу, папулярызатарскую дзейнасць Мірдзы Абалы гаварылі многія. Ад Скарынаўскага цэнтра, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс павіншаваў М. Абалу як прэзідэнта Латышскага аддзялення МАБ. Нацыянальная акадэмія навук Рэспублікі Беларусь выправіла да свайго калегі Вячаслава Чамярыцкага (Інстытут літаратуры), рэдактара слоўніка М. Абалы Івана Лучыца-Федарца (Інстытут мовазнаўства). Словы падзякі свайму аўтару выказала і "Беларуская Энцыклапедыя", пасланцы на юбілейных ўрачыстасці Івана Саламевіча. Ад імя Саюза пісьменнікаў Беларусі юбіляра віншаваў Аляксей Гардзіцкі.

Мірдза Абала, сяброўка Уладзіміра Караткевіча, спаткалася на вечарыне з сястрой У. Караткевіча — спадарыняй Наталляй Сямёнаўнай, захавальніцай літаратурнай спадчыны нашага знакамітага пісьменніка, аўтара "Чазеніі": латышскае выданне ў перакладзе Мірдзы Эдуардаўны і было прадстаўлена прысутным гасцям Дома дружбы.

Пра ролю М. Абалы ў латышскім купалазнаўстве гаварыў прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша. А свой зборнічак вершаў падарыла нашай латышскай госці юная паэтэса Даша Якубовіч.

Былі і музычныя падарункі ў лагоднай атмасферы Дома дружбы. Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, салістка Белдзяржфілармоніі Ірына Шуміліна сагрэла сэрцы прысутных цудоўнымі мелодыямі, выкананымі на фартэпіяна.

Бакал шампанскага за здароўе імянінніцы ірдзеў, мігцеў, ззяў, свяціўся ў руках сяброў. Бо імя **Мірдза** і перакладаецца з латышскай мовы як свячэнне, мігценне, ззянне... Сімвалічны і пераклад прозвішча нашай мілай госці: Абала па-латышску звязана з панящем яблыня, яблыневая.

Сам я таксама вельмі ўдзячны М. Абале за даўняе творчае супрацоўніцтва, за тыя промні яе навуковых пошукаў, якімі яна шчодра дзеліцца з усімі сваімі сябрамі ў Балткрэзі (латышскае гучанне Беларусі):

**Замілаванне — радасці аснова.**
**І ў крыўска-балцкім першахараcтве**
**Купалава і Райнісава слова**
**У Вашым сэрцы маладым жыве,**
**Бурштынкі Караткевіча ў пашане,**
**Зярнятамі змог Колас прарасці...**
**Прыміце сёння наша віншаванне...**
**— Paldies! — і: — Дзякуй!**
**Светласці ў жыцці!**

Такія радкі я прысвяціў Мірдзе Эдуардаўне. А яшчэ яе віталі ў літаратурным музеі Янкі Купалы, у сядзібе Скарынаўскага цэнтра. Яна прысутнічала на ўрачыстасцях з выпадку ўзнагароджання народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна вышэйшай узнагародай Латвійскай дзяржавы — ордэнам "Тры зоркі". За тры беларускія дні мела сустрэчы з супрацоўнікамі рэдакцый "Культура", "Всемирная литература", з прадстаўнікамі беларускага Пэн-цэнтра... Верыцца, што творчасць Мірдзы Абалы дасць нашаму добрасуседству новыя плады.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня Рады таварыства "Беларусь—Латвія".**

**НА ЗДЫМКУ: Мірдза АБАЛА (злева) і Рыгор БАРАДУЛІН з жонкай.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**

*ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ*

# ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА

Які павучальны прыклад навукова-дзеяння даўгалеццея! Мусім унесці, бадай, толькі адну папраўку. Саюзным акадэмікам Есьман наўрад ці быў — яго імя не знаходзім у салідным даведніку "Академия наук СССР. Персональный состав", дзе пералічаны літаральна ўсе без выключэння расійскія, а потым саюзныя акадэмікі і члены-карэспандэнты за 250 гадоў ад заснавання Акадэміі (1724) да выхаду кнігі (1974).

Няма звестак пра членства ў саюзнай акадэміі і ў другім выданні Вялікай Савецкай Энцыклапедыі (адпаведны том выйшаў у 1952 годзе, яшчэ пры жыцці Есьмана). Там сказана: "...(р. 1868) — советский ученый-гидравлик, действительный член Академии наук Азербайджанской ССР (с 1945), заслуженный деятель науки Азербайджанской ССР (1927). С 1922 — заведующий кафедрой гидравлики Азербайджанского индустриального ин-та, до этого был профессором некоторых институтов в Петрограде. Работы Е[сьмана] посвящены преимущественно гидравлике и гидромашиностроению, в частности исследованиям движения жидкостей повышенной вязкости через местные сопротивления, турбулентным потоком, а также теории и расчету поршневых и центробежных насосов. Им даны физич. основы явления турбулентности потока и введено понятие линейности жидкости. Е[сьман] принимал участие в разработке предложенной В. Е. Грум-Гржимайло гидравлич. теории движения газов в металлургич. печах. Участвовал в проектировании крупнейших нефте- и водопроводов и насосных станций". І гэтая даведка вельмі ўражвае, нягледзячы на спецыяльную тэрміналогію. Быў ці не быў Есьман саюзным акадэмікам — пытанне ў даным выпадку другараднае (дарэчы, магчыма, выбіраўся, ды не быў зацверджаны, часы былі строгія, як шматзначна сказаў бы паэт — сведка эпохі, — "может, в списке наградном вышла опечатка"). І без таго абсалютна ясна, што перад намі яшчэ адна цікавая постаць, якая сведчыць аб рознабаковай таленавітасці нашых землякоў, каштоўным укладзе беларусаў у навуку і культуру многіх народаў свету.

Унушальны спіс прац Есьмана апублікаваны ў яго персанальнай бібліяграфіі, якая выйшла ў свет асобным выданнем у серыі "Дзеячы навукі і культуры Азербайджана" (Баку, 1969).

На вокладцы партрэт Іосіфа Гаўрылавіча. Адразу кідаецца ў вочы яго вялікае падабенства з бацькам на групавым здымку з Дунінам-Марцінкевічам. Толькі ўсё наадварот — бацька-паўстанец малады, а сын-акадэмік сівы, у шаноўным узросце. Так дзівосна пераблыталіся розныя эпохі.

Ва ўступным артыкуле акадэміка Ч. Джуварлы, які блізка ведаў Есьмана, цытуюцца аўтабіяграфічныя нататкі нашага земляка:

"І. Г. Есьман нарадзіўся 1 снежня 1868 г. у маленькім гарадку Вілейцы, у сям'і земскага доктара. "Памятаю сябе хлапчуком гадоў 3-х, калі жылі ў горадзе Мінску на Захараўскай вуліцы каля нямецкай кірхі, — пісаў у сваёй аўтабіяграфіі Іосіф Гаўрылавіч. — Бацька мой паходзіў з невялікага беларускага сяла Есьманы, дзе апрача нас жыло досыць многа людзей з тым самым прозвішчам — Есьман.

У адрозненне ад маці, кабеты надзвычай набожнай, бацька быў перакананым атэістам і знаходзіўся ў заўсёдных канфліктах з царквою. Асабліва яскрава яго атэізм выказаўся ў тэстаманце, дзе ён запатрабаваў, каб яго хавалі без святара. Мы з братам пастараліся выканаць яго просьбу, і горад быў уражаны дзіўнай па тым часе працэсіяй, на чале якой ішоў не святар, а двое маладых людзей — сыны нябожчыка".

З гэтага можна зрабіць вывад, што Гаўрыла Есьман памёр недзе ў канцы стагоддзя, можа, нават каля 1890 года, калі яго сыну — будучаму азербайджанскому акадэміку — было 22 гады. Ч. Джуварлы піша далей: "Відаць, бацька адыграў значную ролю ў выхаванні сына, у фарміраванні яго юнага светапогляду. Хлопчык на ўсё жыццё запомніў прагулкі з бацькам па бяскрайніх лясах Беларусі, яго расказы аб польскім паўстанні, удзельнікам якога ён быў. У бацькі Іосіф Гаўрылавіч навучыўся любіць і цаніць прыроду, займацца спортам; выдатная загартоўка, набытая ў маладыя гады, памагла яму да глыбокай старасці захаваць творчую працаздольнасць, аставацца бадзёрым і жыццярадасным чалавекам".

Завершым наш нарыс яшчэ адной цытатай — са згаданага даклада прафесара Хадубскага на кангрэсе беларусістаў. "Працуючы ў Азербайджане, — гаворыць Хадубскі, — Есьман падкрэсліваў сваю сувязь з Беларуссю. Ахвотна наведваў Бацькаўшчыну. У сваім асяроддзі ці ў час кантактаў са знаёмымі беларусамі карыстаўся беларускай мовай". Магчыма, дададзім мы, гэта таксама ішло яшчэ ад бацькі, паўстанцашлянноўца, неардынарнага чалавека з акружэння беларускага класіка Дуніна-Марцінкевіча.

Пра ўсё гэта нагадаў нам стары здымак — можа быць, самы ранні вядомы на сёння групавы здымак, зроблены ў Мінску. (Па Віцебску мы ведаем больш — хоць і не на шмат — ранні групавы здымак 1860 года. На ім зафіксаваны 12 асоб — беларускі пісьменнік А. Вярыга-Дарэўскі, славуты гітарыст-віртуоз М. Сакалоўскі і інш.).

І яшчэ напаследак. Мяркуючы па каталогах нашых навуковых бібліятэк, любоў да гідраўлікі, да навукі і тэхнікі перадалася дзецям Іосіфа Гаўрылавіча. Зусім нядаўна — у 1986 годзе — у Баку, пад грыфам Інстытута праблем глыбінных нафтагазавых радовішчаў выйшла папулярная кніжка "Ля вытокаў гідраўлікі" з падзагалоўкам "Займальная гідраўліка". Напісана яна лёгка, сапраўды займальна, з непадробным захапленнем, здзіўленнем перад таямніцамі жыцця і прыроды, тэхнічным прагрэсам чалавецтва. Яе аўтар Багдан Іосіфавіч Есьман — унук паўстанца. Магчыма, у Баку, у сямейных архівах, захоўваюцца матэрыялы, цікавыя для беларускіх даследчыкаў.

Адгукніцеся, Есьманы!

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 7—9.

*100-годдзе I з'езда РСДРП*





**Першы (устаноўчы) з'езд сацыял-дэмакратычных гурткоў Расійскай імперыі адбыўся нелегальна 1—3 (13—15) сакавіка 1898 года на кватэры чыгуначнага служачага сацыял-дэмакрата Пятра Румянцава ў Мінску. У яго рабоце ўдзельнічалі 9 дэлегатаў ад Пецярбургскага, Маскоўскага, Кіеўскага, Екацярынаслаўскага саюзаў барацьбы за вызваленне рабочага класа, а таксама групы "Рабочей газеты" і Бунда (яўрэйская сацыял-дэмакратычная партыя). З'езд абраў Цэнтральны Камітэт з трох чалавек, прызнаў афіцыйным органам партыі "Рабочую газету", вырашыў выпусціць маніфест партыі. Дарэчы, маніфест РСДРП і рашэнні з'езда былі надрукаваны ў красавіку 1898 года ў Бабруйску.**

**Стагоддзе з дня адкрыцця I з'езда РСДРП адзначаецца 13 сакавіка як у Беларусі, так і ў іншых краінах свету.**

**НА ЗДЫМКАХ: Дом-музей I з'езда РСДРП; спальня, дзе праходзілі пасяджэнні.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# ПАМІЖ ФРАНТАМІ

## БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІНАХ ПАЧАТКУ 1920 ГОДА

Беларускія прадстаўнікі на мінскіх перагаворах у спецыяльнай заяве выказаліся супраць умяшання Расіі ў справы тэрыторый, якія знаходзіліся на захад ад лініі граніцы 1772 года, і фактычна далі згоду на ўваходжанне беларускіх зямель у склад "адроджанай Польшчы ў межах 1772 г." на правах культурна-нацыянальнай аўтаноміі.

Вынікі мінскіх перагавораў не дадалі папулярнасці іх удзельнікам. З гэтага часу пачалося падзенне ўплыву Мінскага ЧБНК. Аднак трэба заўважыць, што нават мізэрныя ўступкі палякаў беларусам у галіне адукацыі і культуры выклікалі пратэст з боку прадстаўнікоў польскага насельніцтва "крэсаў", якія абвінавацілі польскі ўрад у тым, што ён зашмат даў беларусам і замала атрымаў ад іх.

Усё больш відавочная падрыхтоўка Польшчы да вайны непакоіла кіраўнікоў Савецкай Расіі. Так, у запісцы ЦК РКП(б) ад 24 снежня 1919 года ўпаўнаважаны Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа Ю. Мархлеўскі звяртаў увагу на магчымасць аднаўлення баявых дзеянняў паміж Польшчай і РСФСР ужо ў бліжэйшы час, нягледзячы на непапулярнасць такой вайны ў асяроддзі польскіх рабочых і сялян. Асабліва непакоіў яго ў сувязі з гэтым стан Заходняга фронту. "...Сілы настолькі мізэрныя, што ў штабе Захарміі ў Смаленску мне заяўлялі: калі палякі вырашаць зараз наступаць, то яны дойдуць урачыстым маршам да Смаленска і Гомеля", — падкрэсліваў Мархлеўскі. Паколькі сіл для аказання эфектыўнага ваеннага супраціўлення палякам не было, кіраўніцтва РСФСР рабіла ўсё магчымае, каб пазбегнуць ваеннага сутыкнення з Польшчай. 28 студзеня 1920 года СНК РСФСР накіраваў польскаму ўраду ноту за подпісамі У. Леніна, Л. Троцкага і Г. Чычэрына, у якой выкладаліся асновы савецкай палітыкі ў адносінах да Польшчы. У ноце выказвалася гатоўнасць дамовіцца з Польшчай па любых, у тым ліку тэрытарыяльных, пытаннях. СНК РСФСР абяцаў, што савецкія войскі не будуць перасякаць лінію польска-савецкага фронту, якая праходзіла праз пункты Дрыса — Дзісна — Полацк — Барысаў — Парычы — Пціч — Белакаровічы. 2 лютага 1920 года зварот урада быў падтрыманы Усерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам, аб чым было паведамлена польскаму міністру замежных спраў 4 лютага 1920 года.

Урад РСФСР свядома выступіў за перадачу ў склад Польскай дзяржавы значнай часткі беларускіх зямель, выкарыстаўшы тактыку перыяду Брэст-Літоўскага міру 1918 года. Гэта прызнаваў У. Ленін, які ў кастрычніку 1920 года заявіў: "Лінія праходзіла так, што Мінск заставаўся ў палякаў, уся Беларусь была ў іх... Але мы тым не менш заявілі самым афіцыйным, самым урачыстым чынам, што мы прапануем мір на тагачаснай лініі, таму што мы шанавалі рабочых, якія павінны былі загінуць у гэтай вайне, так высока, што ніякія ўступкі мы не лічылі больш важнымі. Вырашыць пытанне пра Беларусь мы меркавалі не сілаю зброі, а выключна толькі шляхам развіцця барацьбы ўнутры Польшчы. Мы ведалі, што дапамогу вызваленню працоўных Польшчы мы можам аказаць не столькі сілаю зброі, колькі сілаю нашай прапаганды". У выступленні на I-й сесіі УЦВК VII склікання 2 лютага 1920 года кіраўнік урада РСФСР, адстойваючы правільнасць крокаў, зробленых у адносінах да Польшчы (курс кіраўніцтва РСФСР падзялялі не ўсе), падкрэсліў, што пытанне пра граніцы для камуністаў ёсць пытанне другараднае, між тым як пытанне мірных адносін, уменне дачакацца ўмоў жыцця ўнутры кожнага народа ёсць пытанне прынцыповае.

23—24 лютага 1920 года свае меркаванні адносна савецкіх мірных прапаноў выказала камісія па замежных справах польскага Сейма. Яна лічыла, што савецкія прапановы можна прыняць, калі кіраўніцтва Савецкай Расіі выканае шэраг умоў. У лік такіх умоў былі ўключаны канчатковая ліквідацыя ўсіх слядоў былых падзелаў і кампенсацыя страт за ўчыненыя несправядлівасці; устанаўленне граніц паміж абедзвюма дзяржавамі "на інтарэсах і жаданнях мясцовага насельніцтва" і прадастаўленне насельніцтву мясцовасцей, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай да 1772 года, магчымасці свабодна выказацца па пытанню аб далучэнні да Польшчы. 8 сакавіка 1920 года савецкія мірныя ініцыятывы разгледзеў польскі ўрад. Скульскі, які выступіў з прамовай на пасяджэнні кабінета, звярнуў увагу прысутных на тое, што Польшча будзе дамагацца ад Саветаў адмаўлення ад усякіх правоў на землі, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай у 1772 годзе, калі адпаведная згода будзе дадзена, яна сама вызначыць спосаб пагаднення з насельніцтвам "вызваленых" тэрыторый адносна яго дзяржаўнай прыналежнасці. У выпадку адмовы савецкага боку прызнаць Польшчу ў межах 1772 года польскі ўрад меў намер патрабаваць такой лініі граніцы, якая б адпавядала стратэгічным, эканамічным і адміністрацыйным патрабаванням Польшчы, але і ў гэтым выпадку Польшча павінна была патрабаваць ад кіраўнікоў Расіі прадастаўлення насельніцтву, што пражывала паміж лініяй граніцы 1772 года і новай "лініяй бяспекі", магчымасці свабодна выказаць сваю волю адносна дзяржаўнай прыналежнасці. Ад Савецкай Расіі патрабавалася неўмяшанне ў адносіны Польшчы з насельніцтвам зямель, што размяшчаліся на захад ад вызначанай лініі. 19 сакавіка 1920 года польскі міністр замежных спраў С. Патэк прадставіў на пасяджэнні сеймавай камісіі канчатковыя ўмовы міру. У асноўным яны супадалі з умовамі, выпрацаванымі польскім парламентам і ўрадам, аднак асобныя іх фармулёўкі былі зроблены больш жорсткімі. Так, паводле канчатковага варыянта мірных патрабаванняў, ад РСФСР патрабавалася "прызнаць незалежнасць усіх дзяржаў, што ўтварыліся на тэрыторыі былой Расійскай імперыі і ў цяперашні час фактычна ўжо маюць урады; узяць на сябе абавязак не аказваць ніякага ўплыву на іх унутраны лад, пакідаючы за імі поўную свабоду вырашыць пытанне аб форме праўлення ў іх краінах і вызначыць шляхам свабоднага волевыяўлення характар адносін, якія яны жадаюць устанавіць з іншымі дзяржавамі". 19 сакавіка польскія мірныя патрабаванні былі прад'яўлены РСФСР.

Выстаўляючы жорсткія патрабаванні да кіраўнікоў РСФСР, кіраўніцтва Польшчы свядома ішло на абвастрэнне савецка-польскага канфлікту. 28 лютага 1920 года Пілсудскі, абвінаваціўшы бальшавікоў у канцэнтрацыі войск на польскіх граніцах, заявіў, што Польшча ніколі не пагодзіцца на заключэнне міру ва ўмовах ціску з боку каго б ні было. 5 сакавіка польская армія пачала наступленне ў напрамку Мазыра і Рэчыцы, маючы на мэце перарэзаць чыгунку Віцебск — Казацін і стварыць перашкоду для перакідкі савецкіх войск з Беларусі на Украіну, дзе павінны былі адбыцца асноўныя дзеянні кампаніі 1920 года. З 8 сакавіка ў адпаведнасці са стратэгічным планам польскага ваеннага камандавання пачалася канцэнтрацыя польскіх войск на ўкраінскім напрамку. Беларускі напрамак разглядаўся як другарадны, да канца красавіка тут знаходзіліся 6 пяхотных дывізій і 2 кавалерыйскія брыгады, агульная колькасць якіх крыху перавышала 42 тысячы штыкоў і шабель.

Пераканаўшыся ў беспаспяховасці "брэсцкай" тактыкі ў адносінах да Польшчы, кіраўніцтва Савецкай Расіі пачало падрыхтоўку да вайны з ёю. 19 лютага 1920 года У. Ленін распарадзіўся прыпыніць наступленне ў Сібіры. 28 лютага 1920 года камандуючы Заходнім фронтам В. Гіціс накіраваў Савету Працы і Абароны РСФСР рапарт, у якім настойваў на ўзмацненні фронту ў сувязі з узрастаннем пагрозы нападзення польскіх войск і іх колькаснай перавагай над часцямі Чырвонай Арміі. 27 лютага патрабаванне Гіціса было падтрымана Леніным, які даў загад аб пераводзе на Заходні фронт падмацаванняў з Сібіры і Урала. У тэлеграме да Уншліхта ад 11 сакавіка 1920 года Ленін вёў размову аб вайне з Польшчай як аб вырашанай справе, звярнуўшы ўвагу на неабходнасць узмацнення агітацыі на польскай мове. Да 10 сакавіка 1920 года савецкі генштаб падрыхтаваў план наступальных дзеянняў на польскім напрамку. 16 сакавіка Заходні фронт быў гатовы да выступлення. Да канца красавіка ён меў у сваім складзе 49,6 тысячы штыкоў і шабель, 1 976 кулямётаў і 430 гармат. У адрозненне ад палякаў савецкае камандаванне разглядала беларускі напрамак як галоўны, сканцэнтраваўшы на ім каля 85 працэнтаў войск. Актыўна вялася прапагандысцкая прапрацоўка будучай ваеннай кампаніі. 25 снежня 1919 года па прапанове Троцкага ЦК РКП(б) вырашыў накіраваць у распараджэнне Польска-Літоўскага бюро нелегальнай работы работнікаў-палякаў з тылавой работы і іншых франтоў і рэкамендаваў Польскаму бюро прапаганды і агітацыі пры ЦК РКП(б) тэрмінова распрацаваць план стварэння і ўзмацнення сваіх арганізацыйна-тэхнічных баз. 28 лютага 1920 года ЦК РКП(б) зноў вярнуўся да сітуацыі на савецка-польскім фронце і даручыў К. Радэку азнаёміць грамадскую думку "з пазіцыяй Расіі і польскага ўрада ў польскім пытанні, каб магчымая вайна з Польшчай была слушна ўспрынята рускімі і польскімі масамі як нападзенне імперыялістычнай Польшчы па загаду Антанты на Савецкую Расію, якая жадае міру". Таксама ЦК РКП(б) вырашыў прадаставіць у распараджэнне Польскага Бюро пры ЦК РКП(б) "усе неабходныя матэрыяльныя сродкі для падтрымкі руху ў Польшчы".

Рыхтуючыся да вайны з Польшчай, савецкае кіраўніцтва пашырала падтрымку руху супраціўлення на тэрыторыях, якія знаходзіліся пад польскай акупацыяй. З восені 1919 года актывізавалася дзейнасць камуністычнага падполля і звязанага з ім партызанскага руху ў Літве і Беларусі. З верасня 1919 года на пасяджэнні ЦК КП(б) ЛіБ было прынята рашэнне аб пераносе цяжару партыйнай працы ў тыл ворага, падзяліўшы тэрыторыю Літвы і Беларусі на тры часткі: Тарыбскую (у складзе Ковенскай і Сувалкскай губерняў), Заходнюю (у складзе Віленскай і Гродзенскай губерняў) і Усходнюю (у складзе Мінскай, частак Гомельскай і Віцебскай губерняў). Партыйныя камітэты Усходняй часткі павінны былі арганізаваць шырокі рэвалюцыйны рух на сваёй тэрыторыі, Заходняй і Тарыбскай частак — праводзіць галоўным чынам палітычную і арганізатарскую работу. На тым жа пасяджэнні было створана Бюро нелегальнай работы пры ЦК КП(б) ЛіБ. 8 кастрычніка 1919 года бюро вылучыла партызанскі цэнтр на чале з Багуцкім.

**Аляксандр ЦІХАМІРАЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 8—9.**

ЗАМЕСТ ТОСТА НА ЮБІЛЕІ



# PALDIES І ДЗЯКУЙ

У панядзелак, 23 лютага, беларускі каляндар не забыў і такую знамянальную дату, як 75-годдзе Мірдзы Абалы — латышскага літаратуразнаўцы, перакладчыка твораў Якуба Коласа і Уладзіміра Караткевіча, аўтара артыкулаў пра беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і даследаванняў аб прысутнасці ў Латвіі мастацкага слова Янкі Купалы. Да сціплых каляндарных радкоў можна дадаць, што нашая даўняя і шчырая сяброўка з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Латвіі, мае навуковае званне доктара. Спакойнае жыццё пенсіянеркі памяняла на актыўную грамадскую працу (Мірдза Эдуардаўна — сябра Рады Латвійскага таварыства беларускай культуры "Світанак"). І кожную сваю раніцу пачынае з неверагодна цяжкай працы — стварэння шматтысячнага беларуска-латышскага і латышска-беларускага слоўніка, які сёння на стадыі завяршэння.

А свой юбілей апантаная беларускасцю латышка адзначыла на зямлі сяброў. Раніцай 23 лютага, калі толькі пачынаўся яе 75-ты дзень нараджэння, яна прыбыла ў Мінск. І адразу — з карабля на баль. На вуліцы Яніса Райніса яе чакалі настаўнікі 98-й школы, дзе ствараецца экспазіцыя, прысвечаная Я. Райнісу. Былі вершы і песні па-латышску, кава і кветкі... З першымі букетамі нястомная юбілярка прыйшла на галоўную вечарыну ў яе адрас. Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі наладзіла сардэчны прыём у гонар прадстаўніцы Латвіі. Пра багаты навуковы набытак, перакладчыцкую працу, папулярызатарскую дзейнасць Мірдзы Абалы гаварылі многія. Ад Скарынаўскага цэнтра, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс павіншаваў М. Абалу як прэзідэнта Латышскага аддзялення МАБ. Нацыянальная акадэмія навук Рэспублікі Беларусь выправіла да свайго калегі Вячаслава Чамярыцкага (Інстытут літаратуры), рэдактара слоўніка М. Абалы Івана Лучыца-Федарца (Інстытут мовазнаўства). Словы падзякі свайму аўтару выказала і "Беларуская Энцыклапедыя", паслаўшы на юбілейныя ўрачыстасці Івана Саламевіча. Ад імя Саюза пісьменнікаў Беларусі юбіляра віншаваў Аляксей Гардзіцкі.

Мірдза Абала, сяброўка Уладзіміра Караткевіча, спаткалася на вечарыне з сястрой У. Караткевіча — спадарыняй Наталляй Сямёнаўнай, захавальніцай літаратурнай спадчыны нашага знакамітага пісьменніка, аўтара "Чазеніі": латышскае выданне ў перакладзе Мірдзы Эдуардаўны і было прадстаўлена прысутным гасцям Дома дружбы.

Пра ролю М. Абалы ў латышскім купалазнаўстве гаварыў прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша. А свой зборнічак вершаў падарыла нашай латышскай госці юная паэтэса Даша Якубовіч.

Былі і музычныя падарункі ў лагоднай атмасферы Дома дружбы. Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, салістка Белдзяржфілармоніі Ірына Шуміліна сагрэла сэрцы прысутных цудоўнымі мелодыямі, выкананымі на фартэпіяна.

Бакал шампанскага за здароўе імяніннікі ірдзеў, мігцеў, зззяў, свяціўся ў руках сяброў. Бо імя **Мірдза** і перакладаецца з латышскай мовы як свячэнне, мігценне, ззянне... Сімвалічны і пераклад прозвішча нашай мілай госці: Абала па-латышску звязана з паняццем яблыня, яблыневая.

Сам я таксама вельмі ўдзячны М. Абале за даўняе творчае супрацоўніцтва, за тыя промні яе навуковых пошукаў, якімі яна шчодра дзеліцца з усімі сваімі сябрамі ў Балткрэўі (латышскае гучанне Беларусі):

**Замілаванне — радасці аснова.**
**І ў крыўска-балцкім першахарастве**
**Купалава і Райнісава слова**
**У Вашым сэрцы маладым жыве,**
**Бурштынкі Караткевіча ў пашане,**
**Зярнятамі змог Колас прарасці...**
**Прыміце сёння наша віншаванне...**
**— Paldies! — і: — Дзякуй!**
**Светласці ў жыцці!**

Такія радкі я прысвяціў Мірдзе Эдуардаўне. А яшчэ яе віталі ў літаратурным музеі Янкі Купалы, у сядзібе Скарынаўскага цэнтра. Яна прысутнічала на ўрачыстасцях з выпадку ўзнагароджання народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна вышэйшай узнагародай Латвійскай дзяржавы — ордэнам "Тры зоркі". За тры беларускія дні мела сустрэчы з супрацоўнікамі рэдакцый "Культура", "Всемирная литература", з прадстаўнікамі беларускага Пэнцэнтра... Верыцца, што творчасць Мірдзы Абалы дасць нашаму добрасуседству новыя плады.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня Рады таварыства "Беларусь—Латвія".**

**НА ЗДЫМКУ: Мірдза АБАЛА (злева) і Рыгор БАРАДУЛІН з жонкай.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**

*ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ*

# ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА

Які павучальны прыклад навуковага даўгалецця! Мусім унесці, бадай, толькі адну папраўку. Саюзным акадэмікам Есьман наўрад ці быў — яго імя не знаходзім у салідным даведніку "Академия наук СССР. Персональный состав", дзе пералічаны літаральна ўсе без выключэння расійскія, а потым саюзныя акадэмікі і члены-карэспандэнты за 250 гадоў ад заснавання Акадэміі (1724) да выхаду кнігі (1974).

Няма звестак пра членства ў саюзнай акадэміі і ў другім выданні Вялікай Савецкай Энцыклапедыі (адпаведны том выйшаў у 1952 годзе, яшчэ пры жыцці Есьмана). Там сказана: "...(р. 1868) — советский ученый-гидравлик, действительный член Академии наук Азербайджанской ССР (с 1945), заслуженный деятель науки Азербайджанской ССР (1927). С 1922 — заведующий кафедрой гидравлики Азербайджанского индустриального ин-та, до этого был профессором некоторых институтов в Петрограде. Работы Е[сьмана] посвящены преимущественно гидравлике и гидромашиностроению, в частности исследованиям движения жидкостей повышенной вязкости через местные сопротивления, турбулентным потоком, а также теории и расчету поршневых и центробежных насосов. Им даны физич. основы явления турбулентности потока и введено понятие липкости жидкости. Е[сьман] принимал участие в разработке предложенной В. Е. Грум-Гржимайло гидравлич. теории движения газов в металлургич. печах. Участвовал в проектировании крупнейших нефте- и водопроводов и насосных станций". І гэтая даведка вельмі ўражвае, нягледзячы на спецыяльную тэрміналогію. Быў ці не быў Есьман саюзным акадэмікам — пытанне ў даным выпадку другараднае (дарэчы, магчыма, выбіраўся, ды не быў зацверджаны, часы былі строгія, як шматзначна сказаў бы паэт — сведка эпохі, — "может, в списке наградном вышла опечатка"). І без таго абсалютна ясна, што перад намі яшчэ адна цікавая постаць, якая сведчыць аб рознабаковай таленавітасці нашых землякоў, каштоўным укладзе беларусаў у навуку і культуру многіх народаў свету.

Унушальны спіс прац Есьмана апублікаваны ў яго персанальнай бібліяграфіі, якая выйшла ў свет асобным выданнем у серыі "Дзеячы навукі і культуры Азербайджана" (Баку, 1969).

На вокладцы партрэт Іосіфа Гаўрылавіча. Адразу кідаецца ў вочы яго вялікае падабенства з бацькам на групавым здымку з Дунінам-Марцінкевічам. Толькі ўсё наадварот — бацька-паўстанец малады, а сын-акадэмік сівы, у шаноўным узросце. Так дзівосна пераблыталіся розныя эпохі.

Ва ўступным артыкуле акадэміка Ч. Джуварлы, які блізка ведаў Есьмана, цытуюцца аўтабіяграфічныя нататкі нашага земляка:

"І. Г. Есьман нарадзіўся 1 снежня 1868 г. у маленькім гарадку Вілейцы, у сям'і земскага доктара. "Памятаю сябе хлапчуком гадоў 3-х, калі жылі ў горадзе Мінску на Захараўскай вуліцы каля нямецкай кірхі, — пісаў у сваёй аўтабіяграфіі Іосіф Гаўрылавіч. — Бацька мой паходзіў з невялікага беларускага сяла Есьманы, дзе апрача нас жыло досыць многа людзей з тым самым прозвішчам — Есьман.

У адрозненне ад маці, кабеты надзвычай набожнай, бацька быў перакананым атэістам і знаходзіўся ў заўсёдных канфліктах з царквою. Асабліва яскрава яго атэізм выказаўся ў тэстаманце, дзе ён запатрабаваў, каб яго хавалі без святара. Мы з братам пастараліся выканаць яго просьбу, і горад быў уражаны дзіўнай па тым часе працэсіяй, на чале якой ішоў не святар, а двое маладых людзей — сыны нябожчыка".

З гэтага можна зрабіць вывад, што Гаўрыла Есьман памёр недзе ў канцы стагоддзя, можа, нават каля 1890 года, калі яго сыну — будучаму азербайджанскому акадэміку — было 22 гады. Ч. Джуварлы піша далей: "Відаць, бацька адыграў значную ролю ў выхаванні сына, у фарміраванні яго юнага светапогляду. Хлопчык на ўсё жыццё запомніў прагулкі з бацькам па бяскрайніх лясах Беларусі, яго расказы аб польскім паўстанні, удзельнікам якога ён быў. У бацькі Іосіф Гаўрылавіч навучыўся любіць і цаніць прыроду, займацца спортам; выдатная загартоўка, набытая ў маладыя гады, памагла яму да глыбокай старасці захаваць творчую працаздольнасць, аставацца бадзёрым і жыццярадасным чалавекам".

Завершым наш нарыс яшчэ адной цытатай — са згаданага даклада прафесара Хадубскага на кангрэсе беларусістаў. "Працуючы ў Азербайджане, — гаворыць Хадубскі, — Есьман падкрэсліваў сваю сувязь з Беларуссю. Ахвотна наведваў Бацькаўшчыну. У сваім асяроддзі ці ў час кантактаў са знаёмымі беларусамі карыстаўся беларускай мовай". Магчыма, дададзім мы, гэта таксама ішло яшчэ ад бацькі, паўстанца-каліноўца, неардынарнага чалавека з акружэння беларускага класіка Дуніна-Марцінкевіча.

Пра ўсё гэта нагадаў нам стары здымак — можа быць, самы ранні вядомы на сёння групавы здымак, зроблены ў Мінску. (Па Віцебску мы ведаем больш — хоць і не на шмат — ранні групавы здымак 1860 года. На ім зафіксаваны 12 асоб — беларускі пісьменнік А. Вярыга-Дарэўскі, славуты гітарыст-віртуоз М. Сакалоўскі і інш.).

І яшчэ напаследак. Мяркуючы па каталогах нашых навуковых бібліятэк, любоў да гідраўлікі, да навукі і тэхнікі перадалася дзецям Іосіфа Гаўрылавіча. Зусім нядаўна — у 1986 годзе — у Баку, пад грыфам Інстытута праблем глыбінных нафтагазавых радовішчаў выйшла папулярная кніжка "Ля вытокаў гідраўлікі" з падзагалоўкам "Займальная гідраўліка". Напісана яна лёгка, сапраўды займальна, з непадробным захапленнем, здзіўленнем перад таямніцамі жыцця і прыроды, тэхнічным прагрэсам чалавецтва. Яе аўтар Багдан Іосіфавіч Есьман — унук паўстанца. Магчыма, у Баку, у сямейных архівах, захоўваюцца матэрыялы, цікавыя для беларускіх даследчыкаў.

Адгукніцеся, Есьманы!

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

Заканчэнне. Пачатак у №№ 7—9.

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# DIXI. Я СКАЗАЎ.

"ДІХІ" (я выказаўся) — была апошняя, пры жыцці, кніга Алеся Адамовіча. Ён паспеў напісаць яе. Паспеў убачыць надрукаванай. Паспеў патрымаць яшчэ ў руках — уважыць тое, што хацеў сказаць і сказаў...

І думаю, застаўся сабою задаволены. Як араты, азірнуўшыся на дбайна ўзараныя гоні... У яго выпадку — гоні жыцця пісьменніка і грамадзяніна.

Dixi — сказаў і склаў цяжар з душы.

Душы страснай, палкай, не супакоенай да апошняга дня жыцця.

Мала каму з пісьменнікаў шанцавала так класічна — як вымаўлена на залатой латыні — падвесці апошнюю рысу.

...Алесь Адамовіч нарадзіўся 3 верасня 1927 года на Капыльшчыне ў сям'і служачых. Бацька быў урачом. Маці — аптэкарскім работнікам. Праз год сям'я пераехала ў пасёлак Глушу ў Бабруйскім уже раёне. Глуша засталася на ўсё жыццё малой радзімай Алеся Адамовіча. Там прайшло яго маленства. Там ён вучыўся ў школе. Там, вучнем, у 1942 годзе стаў сувязным партызан, а з 1943 года і байцом партызанскага атрада імя Кірава Мінскага злучэння.

"Біяграфія пісьменніка — гэта перш за ўсё яго творы, бо справа пісьменніка — яго слова", — так пачынаўся аўтабіяграфічны нарыс Алеся Адамовіча "Заглядваючы ў сябе", напісаны ў кнігу аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў "Пяцьдзесят чатыры дарогі".

Выкінаем яго напамінак, азірнемся на тую дарогу, якую прайшоў Алесь Адамовіч у сваім жыцці, якую непамерную "кніжную", скажам так, зрабіў работу на гэтай дарозе, які пакінуў нам свае кнігі.

Напачатку быў час, калі ўвесь свой талент і натхненне аддаваў ён літаратурнай крытыцы, літаратуразнаўству і публіцыстыцы.

У 1960 годзе выйшаў у свет першы яго раман "Вайна пад стрэхамі", а праз год — другі "Сыны ішлі ў бой". Яны склалі дылогію "Партызаны", па якой быў пастаўлены адначменны фільм. Затым з'явілася "Хатынская аповесць". Яна была інсцэніравана, і гледачы мелі магчымасць убачыць яе на сцэне. За "Хатынскую аповесць" Адамовічу была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа.

У 1975 годзе Алесь Адамовіч быў адным з аўтараў (разам з Я. Брылём і У. Калеснікам) дакументальнай кнігі "Я з вогненнай вёскі..." У 1979 годзе выйшла "Блакадная кніга" (разам з Д. Граніным) пра пакутнікаў блакаднага Ленінграда.

"Карнікі. Радасць нажа" былі напісаны ў 1981 годзе. Яшчэ вядомы не толькі ў Беларусі, і далёка за яе межамі фільм "Ідзі і глядзі" па сцэнарыю Алеся Адамовіча, пастаўлены кінарэжысёрам Элемам Клімавым.

"Асія". "Апошняя пастараль". "Маленне за будучыню". Аповесці і апавяданні, эсэ — розных гадоў. Усё напісанае Алесем Адамовічам цяжка ўспомніць і пералічыць.

І апошняя кніга.

Dixi. Усё сказаў...

Памёр Алесь Адамовіч у 1993 годзе ў Маскве. Пахаваны ў Глушы, якую ён аддана любіў усё сваё жыццё.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

# БЫЦЬ АСОБАЙ

### *ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕННІКА З РАСІІ АНАТОЛЯ КІРВЕЛЯ*

У Санкт-Пецярбургу жыве цяпер адзін з нашых слаўтых землякоў — Анатоль Кірвель. Нарадзіўся ён у вёсцы Вітуніцы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці ў 1939 годзе. Вучыўся ў Мінскім педінстытуце замежных моў. У Расію пераехаў у 1970-я гады. Займаецца і літаратурнай, і мастацкай творчасцю: сам ілюструе некаторыя свае пісьменніцкія "вопыты", уваходзіць у суполку беларускіх мастакоў "Маю гонар". У 1992 годзе ўдзельнічаў у выставе суполкі (адбылася ў Мінску).

Пачатак сур'ёзнай пісьменніцкай працы А. Кірвеля прыпадае на 1967 — 1968 гады. Тады ў беларускамоўным айчынным друку з'явіліся яго розныя па жанрах творы. Выдаваць іх аўтар не спяшаўся, таму першая кніжка А. Кірвеля ўбачыла свет даволі позна — калі пісьменнік дасягнуў сталага веку. Гэта здарылася ў Мінску, у 1993 годзе. Зборнік "апавяданняў, абразкоў, мрояў" называецца "Човен Харона". Ён быў заўважаны беларускай крытыкай, якая належна ацаніла філасофскі падтэкст твораў А. Кірвеля. Потым у пісьменніка выйшлі і наступныя кнігі: вершы і мініяцюры ў прозе — "Урбанія" (Мн., 1994), "Чалавеку ўласціва" (Мн., 1996), паэма "Формула замежжа" (Мн., 1996). Вечарыну, прысвечаную кнізе "Урбанія", у Мінску ў лютым 1995-га нападзіў Саюз пісьменнікаў Беларусі і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Трэба сказаць, што А. Кірвелю ўдалося захаваць і поўнасцю раскрыць свой арыгінальны талент. Умовы гэтаму не заўсёды спрыялі. Ды пісьменнік усё ж выпрацаваў непаўторную аўтарскую манеру, што заключаецца ў прытчава-сказавых інтанацыях, малым аб'ёме твораў, драматычным ужыванні кантрастаў. А. Кірвель сутыкае перад чытачом проціпеглыя з'явы: памяць і бяспамятнасць, дзеянне і бяздзеянне... Вельмі цікавіць яго гарадская тэматыка. Звычайна, аднак, творца зацямнене месца і час дзеяння сваіх герояў. Для А. Кірвеля прываблівае не самі факт або падзея, а іх роля ў сістэме агульначалавечых каштоўнасцей. Творы пісьменніка вападаюць значным выхаваўчым патэнцыялам, прымушаючы чытача павышаць інтэлектуальны, духоўны ўзровень.

Уся літаратурная творчасць А. Кірвеля вымагае таго, каб ставіцца да яе ўдумліва, знаёміцца з ёю не спяшаючыся, як гавораць асобныя крытыкі, — "у цішыні і адзіноце". Не толькі адчуце эстэтычнае задавальненне, але і звведаеце магутны ўдар па хібах характару. Станеце больш дасканалымі (калі не страціце самакрытыкі).

А. Кірвель-публіцыст заслужыў павагу дзякуючы актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

**Святлана ЯВАР.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

рэвалюцыі, калі ўсё больш ці менш адукаванае, выхаванае, уладкаванае было аб'яўлена рэакцыйным, лішнім, непатрэбным перажыткам, а ўзамен абвешчана прастата. Але не тая высокая прастата, якую прапаведуе хрысціянства: кім бы ты ні быў, не забывай, што перш за ўсё ты — грэшны і недасканалы чалавек. Не, узамен надзьмутага высакамернага дваранства і духавенства прыйшоў не менш чванлівы "просты" клас з нахабным агрэсіўным атэізмам. Ваяўнічыя бязбожнікі! Малаадукаваныя, грубыя людзі. "Затое з рабочых і сялян!" І зноў не ўнутраныя якасці, не маральныя вартасці, а паходжанне чалавека стала галоўным. Гавару пра гэта так непасрэдна, таму што сам з вёскі, з самых што ні ёсць масці. На нашай зямлі здаўна "чорта танцавалі", як гавораць у народзе, — віхар круціўся яшчэ той. Сапраўдны Вавілон. Ці добра, ці дрэнна, але гэта — данасць. Рэальнасць. Трэба жыць і добра разумець, што частка народа ніколі не згадзіцца выключыць з ужывання рускую мову. Ніколі. Нават сапраўдныя беларусы, гаспадары зямлі. Руская мова ўвайшла ў іх плоць і кроў. Але калі беларусізацыю праводзіць гвалтоўна, пугай, тады якая ж гэта дэмакратыя? Трэба вучыцца суіснаваць у рэаліях. А як інакш? Брацьў вілы і ісці ў лес? Я катэгарычна супраць гэтага. Няма такой ідэі, дзеля якой трэба не на жыццё, а на смерць біцца адзін з адным. Іншая справа, што наша стараражытная славянская мова можа зніжнуць зусім. Гэта будзе катастрофа! Таму што любая мова — каштоўнасць, фарба, з якой створаны партрэт лежнасць да краіны, а не нацыянальнасці) ужо на генетычным узроўні выпрацавалася, што патрыятызм — гэта небяспечна. Лепш не высоўвацца з пачуццямі, а проста моўчкі і тупа працаваць. Гэта засмучае мяне і трывожыць. Я хацеў бы, каб наша дзяржава была незалежнай і магутнай настолькі, што магла б прымаць самастойныя рашэнні, каб лёс маіх дзяцей не залежаў ад таго, ці выспаліся ў Варшаве і Кіеве і ці паспелі пахмяліцца ў Крамлі. Я не разумею, як гэта можа быць, каб па беларускім радыё выступаў такі чалавек, як Алкніс, і гаварыў на ўсю рэспубліку: "Якая вы дзяржава? Ніколі вы ёю не былі і не будзеце!" А журналіст, радыёптушачка зачараваная, яму падтаквае... Але як тады быць з Канстытуцыяй? Ды ў іншай краіне яго выгналі б за межы ў 24 гадзіны! А ў нас гэта праходзіць без

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ – ГЭТА ГОДНАСЦЬ, СУМЛЕННЕ І ГОНАР

простых сялян. Маю права... Але час даказаў, што на такой "анкетнай" прастаце доўга не працягнеш. Інтэлігенцыя не павінна жыць у грамадстве, пастаянна як бы просячы прабачэння за сваё існаванне. Хаця, прызнацца, яна сама ў многім падрыхтавала рэвалюцыю, сама вінаватая ў тым, што апраўдвала тэрор, клікала на барыкады, адмаўляла Бога. У выніку з-за страшных сацыяльных катаклізмаў белае змяшалася з чорным. І што атрымалася? Шэрае. Брудные. Знікла яснасць хрысціянскіх арыенціраў, агульначалавечых прынцыпаў. У галовах — блытаніна. І вось цяпер нарэшце грамадства, па-мойму, зноў гатова ўсвядоміць і падзяліць па палюсах "чорнае і белае". А за чалавекам, як заўсёды, застаецца права выбару: працаваць, шукаць шлях ісціны, пакутаваць, каяцца. Ці ісці туды, дзе за прададзеную душу добра плацяць.

— *Як вы ставіцеся да сцвярджэння, што сумленная інтэлігенцыя заўсёды павінна быць у апазіцыі да ўлады?*

— Мне здаецца, гэты пасыл перш за ўсё не варта прымаць напрамую, гэта значыць так, быццам інтэлігенцыя павінна стрымліваць і пастаянна крытыкаваць тых, хто знаходзіцца ля руля дзяржавы. Апазіцыйнасць інтэлігенцыі заключаецца ў іншым: сродкамі мастацтва як мага гучней гаварыць з уладай аб болю народным, аналізаваць, прапаведаваць, прадказваць... Сапраўдныя творцы рабілі гэта ва ўсе часы, і ва ўсе часы ўладзе гэта вельмі не падабалася. "Мая праўда, таму што я — князь". І нават калі на змену прыходзіў іншы, ніхто з іх ніколі не прызнаваў, што так, былі "жрацы мастацтва", якія папярэджвалі, перасцерагалі... Што зробіш, каставаць улады вечная.

— *Вычарпала сябе яшчэ адна хваля нацыянальнага адраджэння. Якія вывады вы робіце сёння з гэтага факта?*

— Вывады рабіць ранавата, а вось роздумы наконт гэтага маюцца. Усю гісторыю беларусы жылі не адны: то з Польшчай, то з Расіяй, то пад немцам. Працэс інтэграцыі зайшоў у глыб свядомасці ўсяго чалавецтва. Але беларуская мова цяпер у небяспецы... Раней яна падпітвалася вёскай. Цяпер наша вёска жыве ў зусім іншым вымярэнні і сама мае патрэбу ў дапамозе. За нашу мову я буду змагацца да апошняга, таму што душа мая гаворыць на беларускай, руская — для быту, для "кухні", але ў творчасці... Творчасць — песня. А песні спяваць я магу толькі на роднай мове.

— *Аляксей Ануфрыевіч, ад чаго ў вас, вобразна кажучы, часам рукі апускаюцца?*

— Ад нашай дваістасці. Я не ведаю, у якой дзяржаве я жыву. Мне не хапае прыкмет дзяржаўнасці! Яны ёсць, але вонкавыя, не глыбінныя. Гэта цягнецца гадамі, я проста стаміўся. Ва ўсіх дзяржавах, калі ты — патрыёт, да цябе ставяцца з павагай. У нас рэакцыя прыкладна наступная: "Патрыёт? Значыць, нацыяналіст! Значыць, супраць Расіі!" Пабойцеся Бога, чаму? Чаму тады не супраць Польшчы, Украіны, Літвы? І што гэта за клікунства, пачатае яшчэ дзесяць гадоў назад аб ярых нацыяналістах, гатовых развязаць грамадзянскую вайну? Дзе вы іх бачылі? Хіба што ў фільмах з грубай, свалачной падтасоўкай... Кучка пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, вучоных, дзесятак дзяржаўных чыноўнікаў на шкоду сабе адстойваюць беларускую мову, нашу гісторыю і нацыянальную культуру ў процівагу добра падкормленай бязлікай "папсе". І гэтыя людзі ўяўляюць пагрозу грамадскаму спакою? Сумна... Патрыятызм у нашых розумах — паняцце паранейшаму вельмі расплывістае. Гэтаму, вядома, ёсць гістарычныя прычыны. Толькі ў XX стагоддзі колькі разоў Беларусь заваёўвалася? Спачатку Кайзер, потым белапалякі, потым Гітлер. Чырвоная Армія пайшла да Масквы, а мая маці засталася ў 41-м з дзвюма маленькімі дзяўчынкамі на руках. Што ёй было рабіць? Павесіцца? Не, яна пайшла працаваць... Не, не супрацоўнічаць з акупантамі, а гарбом сваім зарабляць кавалак хлеба дзецям. Як, зрэшты, і пры Саветах... Ад гэтай вечнай "калатнечы" ў беларусаў (маю на ўвазе прынакаментарыяў, непрыкметна. Мы не ўмеем пастаяць за сябе. Рукі апускаюцца менавіта ад гэтага.

— *Быў час, вы ўдзельнічалі ў сходах Аб'яднанай грамадзянскай партыі, хадзілі на мітынгі і дэманстрацыі. Вас папракаюць сёння за тыя ці іншыя палітычныя прыхільнасці?*

— А ў чым мяне папракаць? Я ніколі нічога ад палітыкі не атрымліваў, акрамя арытміі. На палітычную кар'еру не спадзяваўся, вядомасці мне і так хапае. Так, быў момант, калі творчая інтэлігенцыя выйшла на трыбуны, на плошчы. Гэта адбылося ад беднасці, ад адчаю. Цяпер палітычная актыўнасць творчых людзей знізілася. І правільна, Кесару — Кесарава, Богу — Богава. Дзяржаўныя мужы не могуць займацца творчасцю, і, наадварот, мы не павінны лезці ў палітыку.

— *А вы ніколі не стаялі перад выбарам: творчасць ці кан'юнктура?*

— Што вы маеце на ўвазе? Кан'юнктура — гэта прафесіяналізм. Што ў гэтым дрэннага? Пісьменнік павінен быць пачутым, запатрабаваным. Адзінае, што не дазволена, дык гэта быць графаманам, гэта значыць пісаць па прынцыпу "чего изволите". Хаця ў прынцыпе сапраўдны талент немагчыма прымусіць служыць "каму трэба" ні гарачым жалезам, ні саладкім пернікам. Справа ў тым, што клапаны, якія адказваюць у душы творчай асобы за сувязь з Космасам, з Усявышнім, аўтаматычна закрываюцца, як толькі пачынаеш фальшывіць, пісаць, каб дагадзіць. Гэта значыць пісаць ты, вядома, будзеш. Але дар Божы пры гэтым знікне, і быццам і не было. У савецкай літаратуры колькі хочаш прыкладаў такога графаманства... Сорамна, напэўна, потым...

— *Якой вы бачыце Беларусь у будучыні?*

— Незалежнай.

— *А што асабіста для вас азначае гэтае паняцце — незалежнасць?*

— Сумленне, годнасць і гонар.

**("Народная газета").**

## ВЫСТАВЫ





**Выстава майстроў народнай творчасці "Кругазварот" прайшла ў Браславе. Назва яе адпавядае ідэі арганізатараў. Мастацкія работы паказвалі гадавы цыкл народных святаў і абрадаў. Тут можна было ўбачыць калядных маскі з саломы, распісныя велікодныя яйкі, вясельны пірог і саламяных птушак, разнастайныя ручнікі і паясы, іконы — жывапісныя і вышытыя, работы рэзчыкаў па дрэву і керамістаў, ткачых і майстроў пляцення з лазы.**

**НА ЗДЫМКАХ: на выставе "Кругазварот" у Браславе; работа кераміста Валерыя ЗІНКЕВІЧА з каляднага цыкла.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

**Гэту песню нам даслаў шчыры сябра беларушчыны і Беларусі Гай Пікарда. Пад эгідай Беларускай бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане ён выдае "Беларускую хроніку" на англійскай мове, знаёміць тым самым англамоўнага чытача Вялікабрытаніі з нашым краем, нашым народам, нашымі традыцыямі і культурнай спадчынай. А каб спявалі гэтыя песні не толькі беларусы, але і англічане, Г. Пікарда паралельна з беларускім дае і англійскі тэкст.**

# ОЙ, УЗЯЛА Ж МЯНЕ

### Ah, what sadness

*Музыка невядомага аўтара (XVII стагоддзе)*




**1. Ой, узяла ж мяне вялікая туга,**
**Што я не віжу свайго міла друга.**
**Пашла б я за нім — і следу не знаю,**
**Што ся чынілі, бедная, маю.**

**2. Цяжка ж то маему сэрцу вдыхаці,**
**Што я не магу штодня відаці.**
**Ой, устану рана, лягу пазненька,**
**Цябе я не віжу, мае сэрдэнька.**

**3. На міленькага а на золку ўстану,**
**На міленькага ніколі не гляну.**
**Як не тужыці, даўно не відаўшы,**
**Яго любосці па ўсем дазнаўшы.**

**4. Скаржыцца мушу, гей, на мілога,**
**Ой, шчом так даўна не відала ёга.**
**Тады ся з сэрца з жалю развяжа,**
**Калі з міленькім уторыці кажа.**

**5. А ты, міленькі, дай калі паблудзіш,**
**Сам жа ся сваім розумам асудзіш.**
**Будзеш інную, не мяне любіці —**
**Скажу табе праўду: будзе Бог судзіці.**

## 1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

Паважаныя калегі!

У 1998 годзе Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь праводзяць або ўдзельнічаюць у правядзенні наступных міжнародных канферэнцый, кангрэсаў і "круглых сталоў":

Міжнародная канферэнцыя **"Адам Міцкевіч у нацыянальных культурах"** (Мінск — Навагрудак, верасень 1998 года, правядзенне будзе звязана з адкрыццём музея ў Завоссі і іншымі мерапрыемствамі). Вядучыя арганізацыі і ўстановы: МАБ, Польскі інстытут у Мінску і інш. У час канферэнцыі або ў сувязі з ёю адбудуцца: Купалаўскія чытанні **"Міцкевіч і Купала"** (літаратурны музей Янкі Купалы). V Карэліцкія краязнаўчыя чытанні **"Карэліцкая зямля ў часы Адама Міцкевіча"**, пасяджэнне экспертаў (пад эгідай ЮНЕСКА) у Навагрудку.

* * *

Міжнародны кангрэс **"Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзя"**. Напрамкі: "Традыцыйная народная культура і Асветніцтва", "Беларускае Асветніцтва і хрысціянства", "Духоўныя каштоўнасці Асветніцтва і сучаснасць" (Мінск, другая палова кастрычніка 1998 года). Вядучая ўстанова — Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка.

* * *

Беларуска-літоўскі "круглы стол" **"Літоўцы ў Беларусі, беларусы ў Літве: праблемы адукацыі, выхавання і культуры"** (літоўска-беларускі адукацыйны цэнтр у в. Рымдзюны Астравецкага раёна, красавік — май 1998 года, правядзенне будзе прыўрочана да Дзён беларускай культуры ў Літве, якія мяркуе наладзіць Беларускае таварыства дружбы разам з іншымі ўстановамі і арганізацыямі). Вядучая ўстанова — Цэнтр імя Ф. Скарыны.

* * *

Трэцяя навукова-практычная канферэнцыя **"Культура і адукацыя беларускага замежжа"** (Беласточчына, 5—6 ліпеня 1998 года). Вядучая арганізацыя — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

* * *

Навуковая канферэнцыя **"Ракаўскія Паўночныя Афіны": Эліза Ажэшка, Мар'ян Здзяхоўскі і праблемы культурных кантактаў народаў Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропы"** (Ракаў Мінскай вобласці, верасень 1998 года, пасля канферэнцыі "Міцкевіч у нацыянальных культурах"). Вядучая арганізацыя — Камітэт Ракаўскай канферэнцыі.

Цэнтр імя Ф. Скарыны і Міжнародны камітэт беларусістаў таксама прыкладуць усе намаганні, каб правесці міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную **грамадскім ідэалам**, якая была запланавана на 1997 год.

Заяўкі просім накіроўваць загадзя, не пазней, чым за два месяцы да мерапрыемства, з указаннем тэмы і звестак пра сябе на адрас:

**Цэнтр імя Ф. Скарыны, вул. Рэвалюцыйная, 15, 220050, Мінск, Беларусь.**

**Тэл. 220-76-04, 220-51-57; факс 220-93-50.**



**Адліга.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 395.**
**Падпісана да друку 9. 3. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**